Гэтае апісаньне падзеяў больш выклікае пытаньняў, чым дае адказаў. Возьмем хоць бы справу „пасагу“. Звычайна маладая, выходзячы замуж, прыносіць з сабою ў пасаг сваю ўласнасьць. Між тым Абрантовіч аддаў марыянам тое, што яму не належала, і ў кіраўнікоў закону ня ўзьнікла нават думкі праверыць, ці ён меў на гэта права. Сіповіч таксама ня згадвае прычыны, якая змусіла Абрантовіча ў 1927 г. зьвярнуцца да княгіні Радзівіл. Абмінае ён маўчаньнем і тую частку адказу княгіні, дзе яна ясна казала пра прызначэньне ахвяры і што „скарыстаньне яго для іншай мэты было б выразным прысваеньнем чужой уласнасьці“. Такім чынам у чытача ствараецца ўражаньне, быццам княгіня ўхваліла тое, што зрабіў Абрантовіч; насамрэч яна толькі выказала сваё задавальненьне, што нарэшце пасьля доўгага часу даведалася пра лёс кальe.

Сіповіч працягвае: „З вышэй расказанага відаць, з якімі людзьмі а. Абрантовіч меў справы і як іх сьмела і сумленна абараняў. Гэтым так-жа выясьняецца, адкуль Друйскі манастыр дастаў сродкі на сваё аднаўленьне, пабудову навіцыяту, гімназіі і пад.“[70]. Незразумела, ад каго абараняў Абрантовіч княгіню: калі ёй была патрэбная абарона, дык хіба ад Абрантовіча, Бучыса і Цікоты, якія без яе ведама і згоды зрабілі з ейным дарам, што хацелі. Між іншым, Сіповіч, магчыма, не ўсьведамлячы гэтага, паказаў, што грошы, атрыманыя з продажу кальe, марыяне выдаткавалі на мэты, далёкія ад іхняга першаснага прызначэньня. Наагул, аднак, адданасьць марыянскаму закону, да якога ён належаў, не дазволіла яму сказаць усёй праўды, і таму ягоны аповед атрымаўся няпоўны і скажоны.

[70] Тамсама.

У 1965 г. Г. Піхура ў артыкуле пра княгіню Радзівіл, відаць, даўшы волю сваёй фантазіі, без якой-колечы спасылкі на крыніцы, пісаў, што княгіня „прыракла айцу (пасьля архімандрыту) Ф. Абрантовічу вялікую суму на залажэньне беларускай (вуніяцкай) калегіі ў Рыме. На жаль, з гэтага праекту нічога ня выйшла, бо маемасьці, з якіх мелі чэрпацца на гэта фонды, папалі ў рукі бальшавікоў“[71].

Гісторык Юры Туронак чэрпаў свае зьвесткі пра кальe галоўным чынам з артыкулу Сіповіча і, магчыма, з пачутага ад некага. У 1991 г. д-р Туронак у артыкуле пра Друйскі кляштар піша, што яго грашовыя сродкі „папоўніла ахвяраваньне княгіні Магдалены Радзіваліхі, вядомай з дабрадзейных адносін да беларусаў. Вось жа ў 1916 г. яна ахвяравала на беларускія рэлігійныя сродкі дыямэнтавы нашыйнік, які ў 1925 г. каштаваў 15 тысяч долараў. Значную частку гэтых грошай прынёс у кляшторную касу а. Абрантовіч як свой манаскі пасаг“[72].

У 1995 г. Сяргей Абламейка прысьвяціў даволі шмат месца справе кальe ў сваім артыкуле „Невядомая Унія“[73]. На жаль, ён толькі здолеў яшчэ больш заблытаць і без таго няпростае пытаньне. Напрыклад, ён піша, што „а. Хвецька быў арыштаваны і расстраляны бальшавікамі ў сувязі з працэсам архібіскупа Цепляка“. Насамрэч Хвецьку бальшавікі дэпартавалі ў Польшчу ў 1925 г., і ён пражыў яшчэ амаль 20 гадоў (памёр у 1944 г.). Далей, распавёўшы пра прыход у Друю Абран-

[71] Піхура Г. „Княгіня Магдалена Радзівіл“, *Божым шляхам,* №2, Лёндан, 1965, с. 10.
[72] Туронак Ю. „Беларускія Марыяны ў Друі“, *Спадчына,* №5, Менск, 1991, с. 54.
[73] Абламейка С. „Невядомая Унія“, *Унія,* №4, Менск, 1995, с. 39.

товіча са сваім „пасагам“ і заснаваньне беларускай Друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні, Абламейка працягвае: „Друкарня імя Ф. Скарыны фінансавалася найперш Друйскім домам Марыянаў, які меў грошы з колішняе ахвяры Магдалены Радзівіл“. Тут, як і ў выпадку з Хвецькам, поўная блытаніна. Друкарня Ф. Скарыны ў Вільні пачала працаваць у траўні 1926 году, г. зн. за некалькі месяцаў да таго, як Абрантовіч пастуціў у навіцыят у Друі. Пазычаныя яму Абрантовічам грошы біскуп Лазінскі сплаціў друйскім марыянам толькі ў пачатку 1931 г. Такім чынам, на працягу першых пяці гадоў свайго існаваньня друкарня не магла атрымліваць дапамогу „з колішняе ахвяры Магдалены Радзівіл“. Няма ніякіх доказаў, што і пасьля 1931 г. друйскія марыяне дапамагалі друкарні ці якой іншай беларускай установе. Дый пасьля таго, як у 1932 г. Язэпа Германовіча выслалі ў Харбін, а ў 1933 г. на месца Андрэя Цікоты ў кляштар прыйшоў новы супэрыёр, паляк Уладыслаў Лысік, у Друі не засталося амаль нічога беларускага[74].

[74] Калі ў 1937 г. пачалі распаўсюджвацца чуткі пра магчымае высяленьне марыянаў з Друі за іхнюю беларускасьць, *Хрысьціянская Думка* пісала: „Калі б так сталася, то гэта была б сапраўды іронія лёсу, бо ж айцы марыяне ў Друі, нягледзячы на сваю беларускасьць, бадай выключна працуюць па-польску і гэтым самым для польскасьці“ (*Chryścijankaja Dumka,* No. 14 (140), Vilnia, 15.7.1937, s. 4). Варта прыгадаць, што ў тым часе сябрам рэдакцыйнай калегіі *Хрысьціянскай Думкі* быў друйскі марыянін а. Язэп Германовіч (паэта Вінцук Адважны), якога ў 1936 г. па вяртаньні з Харбіну прызначылі супэрыёрам (кіраўніком) студэнцкага дому (калегіі) Друйскіх клерыкаў у Вільні на вуліцы Жыгімонта, 24. У рэдакцыю таксама ўваходзілі айцы Адам Станкевіч (галоўны рэдактар) і Язэп Рэшаць і студэнт Віленскага ўнівэрсытэту Віктар Ермалковіч.

Нарэшце, цьверджаньне Абламейкі: „...таму, што ў гэтай друкарні выходзіў беларускі ўніяцкі часапіс «Да Злучэньня», выдаваліся беларускія ўніяцкія календары і іншая літаратура <...> можна лічыць, што жаданьне княгіні Радзівіл было выкананае, што пазьней яна і сама прызнала“[75], — ня больш як нічым не абгрунтаванае меркаваньне аўтара.

Іншыя дасьледчыкі, якія згадвалі пра калье, ня ўносілі нічога новага, апрача яшчэ большай блытаніны[76]. Такім чынам стваралася легенда, у якой дайсьці праўды было амаль немагчыма.

---

[75] Абламейка, „Невядомая Унія“ (гл. зноску №73).

[76] Вось некалькі прыкладаў. К. Шыдлоўскі ў артыкуле „Друйскі кляштар айцоў марыянаў“ у *Энцыклапедыі гісторыі Беларусі* (т. 3, Менск, 1996, с. 290), а таксама ў энцыкляпэдычным даведніку *Рэлігія і Царква на Беларусі* (Менск, 2001, с. 94) піша: „Значную ролю ў адкрыцьці кляштару адыгралі грашовыя ахвяраваньні княгіні М. Радзівіл“. Паводле В. Грыгор'евай, У. Навіцкага і А. Філатавай, „у руках Абрантовіча аказаўся падарунак княгіні Магдалены Радзівіл — дыямантавае ўпрыгожаньне, якое яна падаравала ў 1916 г. дзеля разьвіцьця беларуска-ўніяцкай справы... Гэтыя сродкі былі ўкладзеныя на разбудову (Друйскага. — *А. Н.*) кляштару. Княгіня была задаволеная такім выкарыстаньнем і пацьвердзіла, што падарунак прызначаўся для Беларусі і грэка-каталіцкай царквы“ (гл.: „Уніяцтва на Беларусі: ад Полацкага Сабора 1839 г. і да нашых дзён“, у кнізе *З гісторыі уніяцтва ў Беларусі,* Менск, 1996, с. 128; тое самае ў *Канфесіі Беларусі,* Менск, 1998, с. 209—210). Л. Юрэвіч піша, што ў адбудове Друйскага кляштару „Дапамагла... княгіня Магдалена Радзівіл, ахвяраваўшы сваё дыямантавае калье“ (гл. ягоныя *Камэнтары,* Менск, 1999, с. 145).

Дый што казаць пра сьвецкіх аўтараў, калі самі беларускія марыяне ня ведалі праўды. Айцец Уладзіслаў Чарняўскі,

* * *

У 1983 г. мне трапілі ў рукі дакумэнты, якія леглі ў аснову гэтай працы. Яны змусілі мяне перагледзець мае погляды на некаторыя падзеі ў гісторыі беларускага рэлігійнага адраджэньня і ролю асобаў, якія мелі да іх дачыненьне. Не магу сказаць, каб гэта прынесла мне вялікую радасьць. Тым ня менш, я разумеў, што справу такой важнасьці нельга трымаць у сакрэце. Папершае, гэта было б бескарысна, бо „няма нічога схаванага, што б ня сталася вядомым, і нічога таемнага, што б не выявілася“ *(Мц 10:26)*. Па-другое, чым даўжэй хаваць прыкрую праўду, тым больш балюча ўспрымуць яе людзі, калі ўрэшце даведаюцца. Я ўжо не кажу пра тое, што яны страцяць давер да таго, хто хаваў яе. Асаблівае права ведаць усю праўду маюць тыя, каму ляжыць на сэрцы лёс Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі, што цяпер паволі і з вялікімі перашкодамі адраджаецца. Мы прызвычаіліся шукаць прычыны нашых бедаў і няўдачаў у вонкавых абставінах, і ў Беларусі звычайна так яно і ёсьць. Часта, аднак, мы самі ствараем сабе цяжкасьці, калі імкнемся дасягнуць сваёй — хай бы самай высакароднай — вузкай мэты са шкодаю для агульнай справы, карыстаючыся пры гэтым непрымальнымі сродкамі.

Нягледзячы на такія аргумэнты, я ўвесь час адкладаў напісаньне гісторыі кальe. Тым часам у 90-я гг. мінулага стагодзьдзя ў працах беларускіх аўтараў да-

---

які паступіў у Друю ў 1934 г., сказаў у 1992 г. карэспандэнту Хрысьціянскай Думкі пра марыянскую ўласнасьць у Вільні: „На гэтыя дамы грошы дала Радзівіліха, купляў іх ксёндз Андрэй Цікота“ (Кс.Уладзіслаў Чарняўскі: „Кожны народ павінен маліцца ў сваёй мове“. Хрысьціянская Думка, №3(214), Менск 1993, с.53).

волі часта пачалі зьяўляцца згадкі пра „дар княгіні Радзівіл марыянам“. Зразумела, гэтыя аўтары, у добрай веры і нічога не падазраючы, толькі паўтаралі старую, некім прыдуманую гісторыю. У такіх абставінах далей маўчаць было нельга. Напрыканцы 2000 г. у *Нашай Ніве* зьявіўся мой артыкул, прысьвечаны гэтай справе[77]. Рэакцыя марыянаў, на жаль, ня сталася нечаканай...[78]

Я хацеў таксама ўшанаваць памяць добрай і разумнай асобы, балюча параненай у высакародных пачуцьцях да свайго народу тымі, чый абавязак — лячыць раны і сунімаць боль. Апошнім часам беларусам вернутыя імёны шматлікіх выдатных постацяў з іхняй гісторыі. Было б справядліва, каб сярод гэтых постацяў знайшлося месца для княгіні Магдалены Радзівіл.

[77] Надсан А. „Таямніца брыльянтавага кальле Магдалены Радзівіл“, *Наша Ніва,* №49, Менск, 4.12.2000, с. 6—7; №50, 11.12.2000, с. 8—9.

[78] Пялінак В. „Кальле Магдалены Радзівіл“, *Наша Ніва,* №11, Менск, 12.3.2001, с. 8—9.

# Дадатак*

## Дакумэнты ў справе калье Магдалены Радзівіл

### 1. Ліст а. Л. Хвецькі да а. Ф. Абрантовіча ад 8 сакавіка 1927 г. (Фатакопія)

Czcigodny Księże Prałacie!

W ciągu paru tygodni prowadzę korespondencję z Ks. Biskupem Z. Lozińskim w sprawie kolje. Dowiedziałem się od Niego, że ono nie jest całkowicie użyte, że część jest u Księdza Prałata[79], że Ksiądz Prałat zawarł umowę i ma procenta, słowem że Czcigodny Ksiądz Prałat postąpił z tą rzeczą jak właściciel, a przecież od początku nie miał Ksiądz Prałat żadnego tytułu; przywiezienie zaś do Polski, z rąk całkiem pewnych nie dało i nie daje żadnego prawa być uważanym za konserwatora i opiekuna; śmiem tak twierdzić, bo tylko dwóm t. j. Ks. ś. p. Fr. Budzko i mnie było powierzono; Czcigodny Ksiądz Prałat był wtajemniczony, dlatego by rzecz nie zginęła, a nie dlatego by stać właścicielem.

Wobec tego stanu rzeczy proszę o zwrot zostałej części, o gwarancje piśmienne wzięte od Ks. Biskupa Łozińskiego, bo przecież muszę zrobić to co należy z tą rzeczą.

---

* Усе дакумэнты (арыгіналы або копіі), якія тут друкуюцца, знаходзяцца ў архіве Бібліятэкі Ф. Скарыны ў Лёндане.

[79] Абрантовіч атрымаў ад біскупа Лазінскага ганаровы тытул „пралата Менскай капітулы“. Хвецька працягваў называць яго „пралатам“ нават пасьля таго, як той стаў марыянінам і, як законьнік, не карыстаўся больш гэтым тытулам.

Pragnąc jednak załatwić pokojowo i rostropnie tę sprawę proszę o mądre zdanie.

Ks L Chwiećko
8/III 27.
Lublin
Zielona 3

## 2. Ліст а. Ф. Абрантовіча і адказ Магдалены Радзівіл у справе калье

### Ліст а. Абрантовіча ад 12 сакавіка 1927 г.

(Ручная копія, зробленая а. Чэславам Сіповічам)

Czcigodna Pani Księżno!

W r. 1916 wręczyła Pani ś.p. ks. Budźce w Mińsku brylantowe *collier* na cele białorusko-unickie. Ja to *collier* zawiozłem do Petersburga, gdzie z ks. Chwiećką schowaliśmy w mojem mieszkaniu, czekając na lepsze czasy, by tę rzecz użyć według przeznaczenia. Wtajemniczonych było nas trzech: ks. Budźko, Chwiećko i ja. Ks. Budźko umarł, ks. Chwiećkę bolszewicy uwięzili na kilka lat. Widząc, jak ks. Bp Łoziński męczy się w Nowogródku, nie mając mieszkania ani dla seminaryjum, ani dla kurji, ani dla siebie, a znajduje się na Białorusi i mógł by dla Unii wiele dokonać, przedostałem się w r. 1924 w marcu jako kurjer dyplomatyczny do Petersburga i rzecz, którą ks. Chwiećko zdążył zabespieczyć w Komisji Reewakuacyjnej z ks. Ussasem na czele, przywiozłem. Wyręczyłem około 15 tysięcy dol. am. i budowałem w ciągu 2 lat seminarjum w Pińsku. Widząc jednak, że tu cel ofiary osiągnięty nie będzie, zabespieczyłem 10 tysięcy pożyczką ks. Biskupowi Łozińskiemu na 5 lat po 5% rocznych, gdyż

z racji pośpiechu trzeba było rzecz sprzedać nieco taniej. Odpis z pokwitowania z pożyczki załączam. Na resztę kapitału kupiłem nieruchomość w Nowogródku. Wszystko to razem przekazałem klasztorowi Marjanów w Drui, dokąd sam wstąpiłem. Klasztor ten założony jest przez Ojca Św. w tym samym celu, w jakim była dana przez Panią Księżną ofiara. Ks. Chwećkę bolszewicy wkrótce potem wypuścili. Był w Szymonowie, dziś w Lublinie. Jeździłem do niego w sprawie ofiary. Pozotawił do mojej woli i przez trzy lata milczał. Dziś nagle otrzymuję list, z którego widzę, że są tendencje, żeby te pieniądze od nas odebrać. Może tedy Księżna będzie łaskawa napisze mi czy ja cel ofiary dobrze zrozumiałem i czy mam prawo dalej według tego celu rzecz prowadzić, czy może klasztor obowiązany jest ks. Chw. ustąpić. Zaznaczam wobec Boga, że nie chodzi o moją wolę, ale o to, jaki jest cel ofiary i wola Księżnej. Łączę wyrazy najgłębszej czci.

**Адказ Магдалены Радзівіл ад 17 сакавіка 1927 г.**
(Фатакопія)

Wielebny Ojcze,

Osoba która rzeczone przedmioty powierzyła X Budzce, wyraźnie w mojej obecności przeznaczyła swój dar wyłącznie na korzyść Białorusi, a głównie dla Kościoła Grecko Katolickiego. Użyć go dla innego celu było by wyraźnie przywłaszczeniem sobie cudzej (t.j. grecko katolickiej, białoruskiej) własności. Marzeniem tej osoby było założenie w Rzymie Kollegium uniackiego. Proszę to X. Chwiećku i innym zainteresowanym w tem osobom powiedzieć jako fakt niezaprzeczalny.

Jestem szczęśliwą że nareszcie dowiedziałam się że ten interes wziął obrót szczęśliwy: Nigdy nie mówił mi nikt o rezultacie misyi X. Budzki <....>

Będę bardzo wdzięczna za dalsze wiadomości o losie spuścizny X. Budzki: interes ten gorąco polecam Ś$^{mu}$ Józefowi. Uważam fundacyę rzymską za bardzo pożyteczną. O Lublinie i o innych miastach polskich nigdy mowy nie było <...>.

Łącze wyrazy wysokiego paważania i przyjaźni.

MRadziwiłł

17.III

Haus Westfalen Hermsdorf Kunast.

### 3. Вынятак з ліста а. Л. Хвецькі да а. Ф. Абрантовіча ад 23 сакавіка 1927 г.

(Фатакопія)

<...> Pojazdka do Petersburga nie daje nic, bo rzecz była zabezpieczona. Cel w Druji — nie uprawnia.

Pobyt w Szymanowie — nie uprawnia, bo zaznaczyłem wtedy, że rozporządzenie nielegalne <...>

Zupełnie sprawa stoi inaczej dziś. Primo — potrzebuję też pieniędzy. Secundo — to co jedyne i najważniejsze — muszę nareszcie powiadomić Metropolitę Szeptyckiego, by nie być złodziejem. Przecież nie tajno Czcigodnemu Księdzu Prałatowi, że ofiarowano to na sprawy białoruskie dla niego, a Ks. Budźko i ja byliśmy pośrednikami, osobami wskazanemi przez niego dla ofiarodawczyni.

On wie o tem, że ofiara zrobiona, że była u nas złożona, w r. 1926 latem pytał u Ks. Juniewicza, gdy ten był u niego — o mnie; muszę więc mu napisać.<...>

**4. Выпіс з тэстамэнту а. Фабіяна Абрантовіча, зробленага ім 1 красавіка 1927 году ў прысутнасьці сьведкаў айцоў М. Борыка, Б. Стэфановіча і Я. Гайлевіча**
(Ручная копія, зробленая а. Чэславам Сіповічам)

W imię Trójcy Przenajświętszej rozporządzam się moim imieniem na wypadek mojej śmierci jak następuje:

3. Dwa place w Nowogródku przy zaułku Ogrodowym No.5 z zabudowaniami domowi Księży Marjanów w Drui.

4. Dług J.E. Księdza Biskupa Łozińskiego podług zaświad-czenia wydanego mi w Pińsku dn. 11 września 1925 r. L. 6129/5113 też domowi Drujskiemu księży Marjanów.

**5. Ліст Пінскай біскупскай курыі да а. Ф. Абрантовіча і ягоны адказ**
(Машынапісныя копіі, зробленыя а. Чэславам Сіповічам)

**Ліст Пінскай біскупскай курыі да а. Ф. Абрантовіча (19 красавіка 1927 г.)**

Pińsk, d. 19 kwietnia 1927 r.

Do Wielebnego Księdza D-ra Fabjana Abrantowicza

Powiadamia się, że Rada Gospodarcza na posiedzeniu 29 marca r.b. L. protokołu 64, wobec otrzymania pisma Ks. Chwiećki z dnia 25/11 r.b. w sprawie rzeczy przywiezionej przez W. Księdza D-ra i użyte częściowo na odbudowę Seminarjum w Pińsku i wobec wyrażonej chęci Ks. Chwiećki porozumienia się w tej sprawie z J. E. Ks. Biskupem Pińskim, postanowiła powiadomić o tem W. Księ-

dza D-ra, prosić o zwrot pokwitowania wydanego przez Radę Gospodarczą i wstrzymać wypłatę.

Prałat Ks. J. Zelbo
w/z Prezes Rady

### Адказ а. Фабіана Абрантовіча ад 23 красавіка 1927 г.

Druja, 23 kwietnia 1927.

Do Prześwietnej Rady Gospodarczej Kuryi J. E. Ks. Biskupa Pińskiego.

W odpowiedzi na pismo Rady z d. 19 kwietnia r.b. No. 3290/59, dziękuję za powiadomienie o liście ks. Chwiećki z d.25.II r.b., ale przepraszam, że nie mogę, bo nie mam prawa, zadość uczynić żądaniu zwrotu wiadomego pokwitowania, a co za tem idzie nie mogę zrzec się praw, wynikających zeń.

Żądanie Prześwietnej Rady zwrotu rzeczowego pokwitowania i wstrzymanie mi wypłaty %%, jedynie wskutek listu ks. Chwiećki, uważam, co najmniej, za pośpieszne. Co będzie jeżeli jutro napisze X a pojutrze Y?

Poza niezaprzeczonym faktem przywiezienia rzeczy i rozporządzenia się nią trzy lata, nie bez wiedzy ks. Chwiećki, posiadam scriptis dokument, jak i na co mam rzeczy używać i jak od możliwych niepowołanych pretensyj bronić. Dokument pisany przez osobę, co rzecz ofiarowała. Radziłem ks. Chwiećce zwrócić się do tej samej osoby. Wystąpienie jego, nie bezpośrednio do mnie, po trzech latach świadomej zwłoki, nie rozumiem.

Proszę tedy Prześwietną Radę, w miarę możności procenta płacić, chociaż obecnie nie tak gwałtownie potrzebujemy, a sumę, na wypadek mojej śmierci, spłacić do-

mowi Marianów w Drui, któremu przekazałem i tę sumę, włożoną w Pińsku, i własność, nabytą w Nowogródku, którą obecnie sprzedajemy.

Sługa w Chrystusie

### 6. Вынятак з ліста а. Л. Хвецькі да а. Ф. Абрантовіча ад 29 красавіка 1927 г. (Фатакопія)

Piszę po polsku za względów technicznych. <...>

Pisałem do Biskupa Pińskiego ze znanych już Czcigodnemu Księdzu Prałatowi pobudek. Napiszę po 3-maja że wycofuję swoje żądania wobec listu X. Radziwiłowej.

Zostaje jednak prawdą moje zasadnicze twierdzenie, że greko-katol. mieli korzystać z tego, a więc obowiązek powiadomienia Metropolity Szeptyckiego. Jasno o tem pisze X. R. <...>

Szkoda wielka, że mi wyślizgnęło się z rąk; należałoby się jednak coś odstępnego, no ale wola Boża. <...>

### 7. Ліст Магдалены Радзівіл да біскупа Зыгмунта Лазінскага ад 13 красавіка 1931 г. (Фатакопія)

Godesberg/Rhein
St. Leonhardustift

Excellencjo!

Zachęcona uprzejmemi słowami Excellencji pozwolę sobie zdać Jej relację o całej tranzakcji o pieniądzach znajdujących się w ręku X. Abrantowicza, o której widzę, że jest zupełnie mylnie poinformowana. Mój spowiednik

Rektor tutejszego Kollegium Jezuickiego powiedzął mi że chociaż o osobach duchownych należy się mówić ostrożnie, jednak władze wyższe winne być poinformowane o faktach choćby dla nich nie korzystnych.

W r. 1917 lub 1918 (nie pamiętam daty) wręczyłam ś.p. X. Budce naszyjnik brylantowy oraz jeden wielkiej wielkości brylant, które miały być oddane XX Abrantowiczowi i Chwiećce, przez nich spieniężone i użyte na fundację w Rzymie Kollegium białoruskiego greko unickiego. O tem, prócz jednemu p. Romanowi Skirmuntowi nikt nie miał wiedzieć.

O losie tych kosztowności dowiedziałam się dopiero r. 1926 (a może 1927) w Hermsdorfie z listu X. Abrantowicza, który mi doniósł, że za zrealizowane pieniądze został postawiony Seminarium w Pińsku, którego załączył fotografię. Następnie przyszedł list of X. Chwiećki, protestujący przeciwko użyciu pieniędzy przez X. Abrantowicza, ponieważ on ich potrzebował dla Seminarium Lubelskiego. Ot tem, żebym ja w tej kwestyi głos miała, pojęcia widocznie nie miał ani jeden ani drugi z tych dwóch kapłanów przeznaczonych do kształcenia młodzieży duchownej.

Komentarzy żadnych nie dodaję, tylko uwagę, że takie same wyobrażenie ma widocznie O. Cikoto jeśli odebrany dług od Waszej Excellencyi przyjął nic mi o tem nie mówiąc, o czem dziś dopiero dowiaduję się z listu Excellencyi. O postępowaniu X. Abrantowicza mówiłam Przew. O. Bucis'owi, który nie był im zbudowany. Nie mogę zatem przyjąć wyrazów wdzięczmości za pomoc udzieloną w postawieniu Seminaryum Pińskiego, bo została ona udzielona bez mojej wiedzy.

Najuprzejmiej Excellencyi dziękuję za łaskawe odesłanie kasetki P. Dziewiałtowskiemu Gintowtowi i po-

lecając się modlitwom Waszej Biskupiej Mości mam zaszczyt pozostawać z najgłębszym szacunkiem Waszej Excellencyi najniższa służebnica

Magdalena Radziwiłł

d. 13. IV

### 8. Карэспандэнцыя Магдалены Радзівіл з біск. Пятром Бучысам у справе калье (Жнівень—лістапад 1931 г.)

Лісты Магдалены Радзівіл (№1, 3, 5, 7) — арыгінальныя. Лісты Бучыса №№2 і 4 — уласнаручныя копіі; №6 — машынапісная копія „пад капірку“.

#### 8.1. Радзівіл — Бучыс (7 жніўня 1931 г.)

Excellencyo,

W roku 1917—18 mieszkając w onczas w Mińsku powierzyłam XX. Abrantowiczowi, Chwiećce i Budzce naszyjnik brylantowy wysokiej wartości oraz pierścień z dużym brylantem w tym celu, aby po zrealizowaniu tych przedmiotów, suma za nie otrzymana była użyta na rzecz Zakładu Naukowego w Rzymie, w którym kształciliby się młodzi ludzie na kapłanów katolickiego wschodniego obrządku, przeznaczący się do nauczania i do szerzenia Wiary S[tej] wśród ludu białoruskiego w języku białoruskim.

Dowiaduję się z listu x. Biskupa Łozińskiego że część osiągniętej sumy ze sprzedaży kosztowności, którą mu X. Abrantowicz pożyczył i którą Xiądz Biskup określa okrągłą sumą 12,000 $ z polecenia X. Abrantowicza przesłana została do kassy XX. Marianów półtora czy dwa lata temu.

Ponieważ pieniądze te miały i mają inne przeznaczenie uprzejmie proszę aby mi były zwrócone w ciągu trzech miesięcy. Jeżeli by to nie zostało uczynione oddam tę sprawę w ręce jego Eminencyi X. Kardynała van Rossum Przełożonego Propagandy w Rzymie.

Z należącym się Waszej Excellencyi poważaniem
Magdalena Radziwiłł
d. 7 Augusta 1931
St Leonhardus Stift

### 8.2. Бучыс — Радзівіл (4 верасьня 1931 г.)

Thompson Conn. U.S.A.
dnia 4 Września 1931

Najdostojniejsza Księżno Pani!

Tylko wczoraj otrzymałem szacowny list Najdostojniejszej Księżnej Pani, pisany dnia 7 sierpnia bież. roku. W pierszych dniach Października mam być w Paryżu. Będę się starał przyjechać do Godesberga, by osobiście się rozmówić w sprawie tak ważnej.

Tymczasem czuję się w obowiązku zaznaczyć, że suma, otrzymana ze sprzedaży klejnotów, ofiarowanych ks. Abrantowiczowi, nie została przedana do kasy Zgromadzenia XX Marjanów. Wiem, że ks. Abrantowicz pewne pieniądze pożyczył J.E. ks. biskupowi Z. Łozińskiemu. Wiem też, że ks. Abrantowicz nabył dom w Nowogródku. Ani pieniądze, ani posiadłość nieruchoma nie zostały przekazane na własność Zgromadzenia naszego, kiedy ks. Abrantowicz do niego wstępował. Tylko na zasadzie testamentu z chwilą śmierci testatora te dobra stałyby się własnością Marjańską, gdyby on nie uczynił innej dyspozycji.

Obecnie wiem, że ks. Abrantowicz nie ciągnie żadnych osobistych zysków z wymienionych dóbr. Dochody z domu i kapitału, a może i sam kapitał, idą na opłatę wychowania kilku młodych kleryków i aspirantów pochodzenia białoruskiego. W roku szkolnym 1930/31 sześciu z nich kształciło się w Rzymie. Oto są ich imiona: Kazimierz Najłowicz, Tomasz Podziawa, Marcin Zdaniukiewicz, Jan Wojnowski, Kazimierz Urbanowicz i Jerzy Koszyra. Pierszych pięciu kształcą się w obrządku wschodnim i złożyli formalne piśmienne zobowiązania życie swoje poświęcić sprawie nawrócema niekat(*olickich*) ziomków (спачатку было напісана *nawrócenia Rosjan,* а пасьля перакрэсьлена. — *А. Н.*) w granicach Polski albo poza niemi stosownie do rozporządzenia Stolicy Apostolskiej. Kolegjum Russicum wiele im pomaga, ale nie wszystkie wydatki opłaca. Koszyra żadnej zapomogi postronnej nie otrzymuje. Ks. Cikoto wyrównywa rachunki wszystkich sześciu. Oprócz tego w Druji kształciło się czterech nowicjuszów i czternastu postulantów. Przyszłość pokaże, kto z ich nada się na materjał do kapłaństwa i pracy misijnej wśród niekatolików-Białorusów.

Nie mogę twierdzić, że gimnazjum Stefana Batorego w Druji nie otrzymywało wsparcia z dóbr, o których wspomniałem. J.E. Arcybiskup Wileński w 1929 r. w piśmie oficjalnem zażądał od księży Marjanów by koedukacja w tem gimnazjum była zniesiona. Ponieważ żądanie biskupa miejscowego na zasadzie prawa kanonicznego w tego rodzaju sprawach jest miarodajnem, więc ono zostało przesłane księdzu Cikocie do wykonania. On też został powiadomiony, że piśmienne żądania mogą być cofnięte tylko piśmiennie.

Mnie się zdawało, że powinienem przedłożyć Najdostojniejszej Księżnej Pani te szczegóły, które mogą mieć

znaczenie w poruszonej przez nią nader doniosłej sprawie.

Mniej, może, ma znaczenie okoliczność, że ks. Abrantowicz nie jest podwładnym Jego Eminencji Kardynała van Rossum. Jako rządca djecezji rosyjskiej obrządku słowiańskiego, ks. Abrantowicz podlega Apostolskiej Komisji dla spraw Rosyjskich, która ma swój zarząd w Watykanie (Commissione Pontificia per la Russia, Vaticano). Jako zakonnik, ks. Abrantowicz jest podwładnym Jego Eminencji Aleksego Kardynała Lèpicièr (Sacra Congregazione dei Religiosi, palazzo della Cancelleria, Roma).

Dotąd ja miałem wrażenie, że ks. Abrantowicz i jego przyjaciele księża Marjanie z Druji serdecznie, szczerze i skutecznie służą duchownym potrzebom okolicznego ludu (спачатку было напісана „*narodu białoruskiego*“, а пасьля перакрэсьлена. — *A. H.*)*,* że z tego powodu nawet wiele cierpią. Ostatni zaś list Najdostojniejszej Księżnej Pani zdaje się być opartym na całkiem odmiennem przypuszczeniu. Ponieważ mnie nie wolno zamykać oczu na winy moich podwładnych, dlatego ja proszę o poświęcenie mi kilku godzin na posłuchanie, w czasie którego spodziewam się usłyszeć te dowody winy, których Najd. Ks. Pani dla ważnych powodów nie wymieniła w liście. Łaskawą odpowiedź proszę adresować na imię archimandryty-prałata Aleksandra Evreinova, 10 avenue Soeur Rosalie, Paris XIII.

Proszę przyjąć wyrazy niekłamanego szacunku.

\+ Piotr Franciszek Buczys, Marjanin

### 8.3. Радзівіл — Бучыс (бяз даты)

Excellencyo

Odczytałam kopję listu mojego de Waszej Biskupiej Mości i nie mogę się w niem dopatrzyć jakiego kolwiek zarzutu winy któremu z Xięży. Konstatuję tylko fakt stwierdzony listem J. Ex. X. Biskupa Łozińskiego.

Bardzo mi będzie miłem widzieć u siebie Waszą Excellencyę i cieszę się na łaskawie obiecaną mi wizytę.

Łączę wyrazy najgłębszego uszanowania.

MRadziwiłł

### 8.4. Бучыс — Радзівіл (7 кастрычніка 1931 г.)

Rzym, 31 p. di S. Nicola da Tolentino,
dn. 7 Pazdz. 1931

Najdost. Ks. Pani!

Z całego serca dziękuję za łaskawy list, który znalazłem w Paryżu. Sprawy mojego Zgromadzenia zmusiły mnie jechać wprost do Rzymu, a stąd do Montalto, skąd powróciłem wczoraj wieczorem. To był powód, dla którego nie mogłem przyjechać do Godesbergu. Cieszy mnie jednak to, że Najdost. Ks. Pani nie wystawia żadnego zarzutu Marjanom w Druji. Ks. Biskup Łoziński, nie będąc zakonnikiem, nie ściśle się wyraził o prawnem położeniu majątku, powierzonego ks. Abrantowiczowi. Człowiek bowiem, wstępując do zakonu, nie koniecznie przekazuje swój majątek temuż zakonowi, lecz przed ślubami pisze testament. Zakon me ma prawa rosporządzać się majątkiem zakonnika przed śmiercią tegoż, chociażby majątek był zapisany na własność zakonu.

Dotąd mnie się zdawało, że Marjanie Drujscy rządzą majątkiem ks. Abrantowicza stosownie do wskazówek, wyłuszczonych w jego testamencie, i że cele, wskazane przy darowiźnie, zostały wiernie zachowane. W razie gdyby Naj. Ks. Pani wiedziała o jakiem kolwiek odchyleniu się od tych celów, ja prosiłbym usilnie o zakomunikowanie mnie takowego.

Ponawiając zapewnienie o chęci ścisłego przestrzegania woli ofiarodawców, ponawiam również wyrazy serdecznej a gorącej wdzięczności dla Naj. Ks. Pani za dary Jej tak hojne dla naszego skromnego Zgromadzenia. Oby P. Bóg obdarzył Ją zdrowiem, szczęściem i wszystkiemi najobfitszemi dobrodziejstwami!

Polecając się modlitwom N. Ks. Pani pozostaję wiernym i całkowicie oddanym Jej sługą.

+ P. Fr. Buczys M.I.C.
przeł. gen. XX Marjanów

### 8.5. Радзівіл — Бучыс (10 кастрычніка 1931 г.)

Excellencyo,

Listu Jego Excellencyi zupełnie nie rozumiem. Nie cytowałam zdania X. Biskupa Łozinskiego, ale kwestyę przedstawiłam dwom Przełożonym dwóch różnych Zgromadzeń, a również uczonemu Prałatowi i wszyscy byli jednego zdania co do obowiązku Zgromadzenia oo. Maryanów zwrócenia zabranych przez oo. Abrantowicza i Cikoty pieniędzy. Nazwisk obecnie me cytuję, ale radziłam się ludzi poważnych i oni będą kierowali mojem postępowaniem.

Z poważaniem
MRadziwiłł
d.10.8$^{bra}$

## 8.6. Бучыс — Радзівіл (31 кастрычніка 1931 г.)

Rzym, dnia 31 Października 1931 r.

Jaśnie Oświecona Księżno Pani!

Otrzymałem list Jej z dnia 10 Października b. r. Nie mogłem wcześniej odpowiedzieć, bo wróciłem z podróży dnia 28 Października, a posiedzenie Rady Generalnaj w sprawie Jaśnie Oświeconej Księżnej Pani miało miejsce dnia 30 Października.

Posiedzenie prosi Najdostojniejszą Panią zwrócić łaskawą uwagę na kanon 536, gdzie w paragr.2 powiedziano: „Jeżeli zakonnik ślubów zwyczajnych zaciągnął zobowiązanie, on sam musi odpowiadać, z wyjątkiem wypadku, kiedy to uczynił z pozwolenia swego Zwierzchnika“, a w paragr. 3 dodano: „Jeżeli zakonnik zobowiązał się bez żadnego pozwolenia przełożonych, sam powinien odpowiadać, nie zaś zgromadzenie, czy prowincja, czy też dom“. Otóż ks. Abrantowicz nigdy od żadnego zwierzchnika Marjańskiego nie otrzymał pozwolenia zaciągania zobowiązań względem J. O. Księżnej Pani.

Oprócz tego kanon 580,1 opiewa: „Każden kto złożył śluby proste, wieczyste czy czasowe, jeżeli w Konstytucjach niema zastrzeżenia odmiennego, zachowuje własność swoich dóbr i możność otrzymania innych, pod warunkiem zachowania się do kan. 569“.

Kanon zaś 569 mówi o tem, że dobra takiego zakonnika, nie przechodząc na własność Zgromadzenia, są powierzone jedynie do zarządzenia temu ostatniemu, lub postronnej osobie, wybranej przez właściciela. Ks. Abrantowicz powierzył dom w Nowogródku naszemu Zgromadzeniu do zarządzania, nie zaś na własność. Ten sam 569 kanon mówi również o testamencie. Ks. Abrantowicz

taki testament uczynił, jak to wspomniałem w moich uprzednich listach. W Konstytucjach Marjanskich niema żadnego odchylenia się od kanonów Katolickiego Kościoła.

Jaśnie Oświecona Księżna Pani z tych cytat, albo w sądzie, się przekona że nasze Zgromadzenie tytułu własności na majątek ks. Abrantowicza nie ma, a więc tego tytułu nikomu przelać me może. Jeśli O. Lorek, CM. albo inni poważni ojcowie ze zgromadzenia Księży Misjonarzy (Lazarystów) mają inne zapatrywania, to zastosowanie postępowania do nich może tylko narazić na zbyteczne koszta sądowe, gdyż obowiązkiem Marjanskiej Rady Generalnej oraz mojem jest stosowanie się do norm prawnych, obowiązujących w Kościele Katolickim, co też czynię.

Z poważaniem

## 8.7. Радзівіл — Бучыс (4 лістапада 1931 г.)

Excellencyo

Prawa kanonicznego nie znam, ale widziałam w życiu dużo oszustów, których sprytny Żyd adwokat wyratował od katorgi za pomocą na rozmaite sposoby przekręconych tekstów z Kodeksu. Dla mnie i dla licznych osób, którym opowiedziałam postępowanie XX. Abrantowicza i Cikoty, sprawa widziana w świetle 7$^{go}$ przykazania jest zupełnie jasna. Ogólnie mówiąc, czyn potrzebujący dla swojego uniewinnienia długich i subtelnych tłumaczeń jest podejrzany. Ludzie uczciwi nie potrzebują wymownych argumentów.

Sądzę że dalsza między nami korrespondencya do niczego nie doprowadzi.

Łączę wyrazy należącego się Waszej Excełłencyi poważania

MRadziwiłł

d. 4 9[bra]

### 9. Вынятак з ліста біскупа Бучыса айцу Абрантовічу ў Харбін ад 13 лістапада 1931 г.

(Машынапісная копія „пад капірку“)

Ze sprzedażą domu w Nowogródku może być trudność. Księżna Magdalena Radziwiłłowa domaga się zwrócenia tego wszystkiego, co ona dała Przewielebnemu Ojcu, twierdząc, że ofiara została użyta nie na ten cel, dla krórego była przeznaczona. Ja jej odpowiedziałem, że Księża Marjanie nie mogą jej zwrócić tego, co ona dała Ojcu Abrantowiczowi, bo nie mają prawa własności na to. Oprócz tego wymieniłem jej nazwiska kleryków, którzy się kształcą akurat w tym celu, jaki był pobudką ofiary. Księżna w ostatnim swoim liście zwymyślała mnie od szachrajów żydowskich. Na ten list ja jej nic nie odpowiedziałem.

Zważając na taką obfitość krzyżów należy przypuszczać, że przyszłość jak Druji, tak i pracy Harbinskiej będzie świetną i chwalebną. Tego rozumie się, serdecznie życzę i w duchu całuję całem sercem.

### 10. Зрачэньне а. Фабіяна Абрантовіча сваіх правоў на нерухомую маёмасьць у Наваградку на карысьць а. Андрэя Цікоты, каб той скарыстаў яе на патрэбы Друйскага кляштару. Харбін, 17 лістапада 1931 г.

(Копія, зробленая а. Чэславам Сіповічам)

Русская католическая епархия византийско-славянского обряда в Китае

Ordinariatus ritus Byzantino-Slavici Catholicorum Russorum in Sinis

Novembris 17 дня 1931 г., №174

Ego infrascriptus Fabianus Abrantowicz, e Congregatione CC. RR. Marianorum, Ordinarius Harbinensis Catholicorum Russorum in Sinis, hisce renuntio in manus R. Andreae Cikoto, Superioris in Druia, omnibus meis iuribus, quae expectant domum et hortum penes Ogrodowy zaułek N.5 in civitate Neogardi (Polonia) et quidem eo modo et fine ut proprietas illa possit renundari et servire pro domo Marianorum in Druia.

F. Abrantowicz, M.I.C., Ordinarius Harbinensis

### 11. Ліст Магдалены Радзівіл да а. Андрэя Цікоты ад 18 студзеня 1932 г. (Фатакопія)

Szanowny Księże Przełożony,

Kosztowności dane przeze mnie X. Abrantowiczowi w r. 1917 miały być sprzedane, i suma z ich sprzedaży osiągnięta była przeze mnie *ściśle* przeznaczona na zainicyowanie Seminaryum Grecko-Katolickiego w Rzymie bez

żadnego określenia narodowości tych którzy by w niem się kształcili.

Pierwszym nadużyciem było pożyczenie pieniędzy na Seminaryum Pińskie z kłamliwym zapewnieniem X. Biskupowi Łozińskiemu że czyni się to z moją wiedzą i zgodą. Dalszem oszustwem było zapewnienie dane mi przez X. Abrantowicza w Godesbergu że niema nadziei pożyczone pieniądze odebrać. Trzecim aktem tej nieuczciwej komedyi był t. zw. testament X. Abrantowicza mocą, którego pieniądze do niego nie należące zostały zapisane Przełożonemu Drujskiemu, i polecenie X. Biskupowi Łozińskiemu wypłacania jemu kradzionych funduszów.

Gdyby administrator majątku otrzymał od właściciela sumę dla postawienia spichlerza lub obory był by złodziejem jeśli by ją pożyczył przyjacielowi, a jeszcze gorszym złodziejem, jeśli by ową sumę, po odebraniu jej od przyjaciela użył na cel inny jak ten na który ona była powierzoną. Ten zaś który rozporządza kradzionymi pieniądzami staje się uczestnikiem kradzieży. Tak uczy Katechizm zgodnie z prawem cywilnem, bezwzględnie na to czy przestępca chodzi w ubraniu świeckim czy duchownym.

Magdalena Radziwiłł
18.1.1932

# Паказьнік імёнаў

# Паказьнік геаграфічных назваў

# Зьмест

## БІБЛІЯТЭКА

## БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА АГЛЯДУ

### Выйшлі з друку

1. *Франц Кушаль.* Спробы стварэньня Беларускага войска. Менск, 1999. 166 с.

2. *Сымон Кандыбовіч.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мінск, 2000. 160 с.

3. *Алесь Белы.* Хроніка „Белай Русі“. Нарыс гісторыі адной геаграфічнай назвы. Мінск, 2000. 238 с.

4. *Людміла Хмяльніцкая.* Гісторык з Віцебска (жыццяпіс Аляксея Сапунова). Мінск, 2001. 256 с.

5. *Лявон Юрэвіч.* Вырваныя бачыны: да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі. Мінск, 2001. 214 с.

6. Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. Мінск, 2001. 374 с.

(другое дапоўненае выданьне: Мінск, 2006. 400 с.)

7. *Мікола Панькоў.* Хроніка беларускага жыцьця на чужыне. (1945—1984 гг.). Мінск, 2001. 332 с.

8. *Юры Туронак.* Беларуская кніга пад нямецкім кантролем (1939—1944). Мінск, 2002. 144 с.

9. *Вітаўт Тумаш.* Выбраныя працы. Мінск, 2002. 246 с.

10. *Лявон Юрэвіч.* Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. 244 с.

11. *Юліуш Бардах.* Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мінск, 2002. 459 с.

12. *Райнэр Лінднэр.* Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX—XX ст. Мінск, 2003. 540 с.

13. ***Бернгард К’яры.*** Штодзённасць за лініяй фронту: Акупацыя, калабарацыя і супраціў у Беларусі (1941—1944 г.). Мінск, 2005. 390 с.

